



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

18 верасня 2015 года №38 **(1064)**


**Які новы будынак з'явіцца на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне**

старонка 2

**Бой за Вілейку ў 1915 годзе. Храналогія падзей**

старонка 19

*Беларускай асацыяцыі журналістаў –*

## 20 год

*Грамадская арганізацыя бярэ свой пачатак ад 16 верасня 1995 года і за гэты час стала сапраўдным цэнтрам салідарнасці, узаемападтрымкі і развіцця прафесіяналізму журналістаў.*

*Многія выданні сродкаў масавай інфармацыі адчулі часам жыццёва неабходную падтрымку сваіх калег дзякуючы БАЖу.*

*Шматлікія журналісты змаглі стаць як прафесіяналы дзякуючы сваім калегам з БАЖа.*

*У гэты дзень мы святкуем не толькі свята прадстаўнікоў адной прафесіі. Мы адзначаем змаганне беларускіх журналістаў за высокі стандарт прафесіі і свабоду слова, неад'емную каштоўнасць дэмакратычнага грамадства.*

*"Рэгіянальная газета".*

# РАМОНТ

**Як зрабіць якасны рамонт, чытайце на 20-21 старонках**

Фота postroim.net.

ПАМЯЦЬ

## У Вілейцы прыгадаюць пра спявачку Наталлю Салаву і дапамогуць анкадыспансеру

ВІЛЕЙКА

**Канцэрт "Не для мяне прыйдзе вясна ..." пройдзе ў Палацы культуры 25 верасня. Прысвечаны ён памяці віляйчанкі Наталлі Салавай.**



Наталля Салава была ўладальніцай Гран-пры фестывалю "Адна зямля-2004".

Яна памерла летась 12 жніўня: было ёй толькі 29 год.

Наталля доўгі час была салісткай узорнай эстраднай студыі "Экспромт" у Вілейцы. У 2004 годзе заваявала Гран-пры фестывалю "Адна зямля". Скончыла Мінскі дзяржаўны каледж мастацтваў, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры. Была салісткай Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя Жыновіча, ансамбля казацкай песні "Бацька Атаман" з Мінска.

– Канцэрт чакаецца як душэўны вечар памяці Наталлі, – кажа дырэктар Палаца культуры **Алеся Высоцкая**. – Мяркую, людзі прыйдуць на канцэрт аддаць часцінку душы, удзяліць увагу родным Наталлі, пакажуць, што горад яе памятае.

Наталля была неардынарным чалавекам, прыгадвае Алеся Высоцкая:

– Яна мела ўнікальны голас, які складана з чымсьці параўнаць. Наталля была і эстраднай спявачкай, і цудоўна валодала народнай манерай выканання. Калегі ўспамінаюць, што яна была сапраўдным упрыгожваннем ансамбля "Бацька Атаман" – бы тая кветка.

У канцэрце прыме ўдзел Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя Жыновіча. Яго мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – ураджэнец Вілейшчыны, народны артыст Беларусі прафесар **Міхаіл Казінец**. Таксама выступіць ансамбль казацкай песні "Бацька Атаман".

Магчыма, прыедуць яшчэ іншыя артысты. Пачуўшы, што ў Вілейцы пройдзе канцэрт памяці Наталлі Салавай, яны пачалі тэлефанаваць: хочуць праспяваць на канцэрце і тым самым аддаць даніну павагі Наталлі.

Пачатак – у 18 гадзін. Канцэрт платны. Атрыманыя сродкі пералічаць Вілейскаму анкалагічнаму дыспансеру.

**Аддзел інфармацыі.**

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# "Мова Нанова" распачала новы сезон

МАЛАДЗЕЧНА

**Другі сезон модных, сучасных, бясплатных курсаў "Мова Нанова" распачаўся 15 верасня ў бібліятэцы "Верасок" і сабраў каля 40 аматараў беларускай мовы.**

Першыя заняткі мелі ўмоўную назву "Як я правёў лета".

Не, слухачы курсаў сачыненне на гэтую тэму не пісалі, затое з захапленнем расказвалі, што адметнага адбылося ў іх жыцці сёлетнім летам.

Слухачы курсаў **Вадзім** і **Юля** адсвяткавалі вяселле ў беларускім стылі, пра што і абяцалі расказаць падрабязней на бліжэйшых занятках. **Ганна**, **Андрэй**, **Настасся** і яшчэ некалькі чалавек з'ездзілі ў Пецярбург. Іншыя слухачы схадзілі ў пілігрымку, упершыню самастойна выганялі мёд, пабывалі ў Нарвегіі, аднаўлялі месца касцёла ў Аборку.

Гасцямі першых заняткаў быў гурт "Гутатэлі" – **Аўгіня Манцэвіч** і **Верасень**. Яны не толькі музыкі, але і вандроўнікі.

Распавядалі пра свае падарожжы па свеце, як мяняюцца густы, калі ты цягам двух гадоў жывеш толькі ў лецэ.




Пра сталіцу Калумбіі, горад Багату, Верасень расказаў, што там адсутнічае такое паняцце, як прагноз надвор'я. Бо круглы год тэмпература паветра + 20-25 градусаў, і ўсе чатыры поры года ў Калумбіі праходзяць адначасова. Адны дрэвы адцвітаюць, другія цвітуць, з трэціх збіраюць плады, а чацвертыя ў зімовай спячцы.

Асобную частку заняткаў прысвяцілі ўганараванню пераможцаў конкурсу "Чытаем па-беларуску", які доўжыўся цягам лета.

Наступныя заняткі адбудуцца ў аўторак, 22 верасня, тэмай іх стане "Архітэктура". У госці запрошаны гісторык і краязнаўца Уладзімір Садоўскі, а таксама музыка Ілля Фаляжынскі. Пачатак заняткаў а 18-й гадзіне.

**Наталля ТУР.**

ЭКАНОМІКА

## Праблемы завода парашковай металургіі не вырашаюцца

МАЛАДЗЕЧНА

**Так ахарактарызаваў сітуацыю дырэктар Алег Тапалаў.**

**Лёс прадпрыемства будзе вырашацца пасля прыезду намесніка прэм'ер-міністра Уладзіміра Сямашкі.**

Абстаноўка застаецца фінансава напружанай.

Між тым, значнасць завода вызначаецца нават не мясцовым, а рэспубліканскім узроўнем. Ён адзіны ў краіне, абсталяваны пад спецыфічную вытворчасць.

Візіт пазначаны ў графіку рэспубліканскага чыноўніка, але чарговы раз адкладаецца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПАДЗЕІ

## Што ў праграме свята горада ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ

**У Мядзеле 19 верасня ў другі раз адбудзецца свята горада. Урачыстае адкрыццё – у 14 гадзін.**

У тэатралізаваным прадстаўленні "З глыбіні стагоддзяў" прыгадаюць гісторыю Мядзела.

Экскурсаводы ў старадаўніх строях правядуць тэатралізаваныя экскурсіі па горадзе. Пройдуць пленэр юных мастакоў, персанальная фотавыстава юнай мядзельчанкі **Юліі Пацяюн**. Пакажуць творчую гасцёўню з прэзентацыяй прац людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Запрацуюць гульнявыя пляцоўкі.

На вуліцы Шаранговіча размесціцца "Кніжная алея" з разнастайнымі выставамі.

Пройдуць спартыўныя спаборніцтвы, дыскатэка і іншыя мерапрыемствы, паведамілі ў аддзеле ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Наталлі ТУР.

На месцы гандлёвых павільёнаў можа з'явіцца ЗАГС ці новы будынак райвыканкама.

● БУДАЎНІЦТВА

# На плошчы знясуць гандлёвыя рады

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра планы забудовы Цэнтральнай плошчы мы пагутарылі са Святланай Хрусталёвай, начальнікам аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама.**

– На сайце выканкама ад 2013 года вісіць прапанова для інвестараў на будаўніцтва на Цэнтральнай плошчы будынка грамадскага прызначэння. Толькі пакуль ніхто не зацікавіўся гэтай прапановай.

**Пакуль пытанне з будаўніцтвам не вырашанае, на плошчы будзе паркоўка для аўтатранспарту.**

Маладзечанскі райвыканкам падаваў дакументы на дазвол будаўніцтва на гэтым месцы шматпавярховага жылога дома. Планавалася, што на першым паверсе будуць магазіны ці іншыя грамадскія ўстановы. Але ў камітэце архітэктуры і будаўніцтва Мінаблвыканкама адмовілі.

Што датычыцца магазінаў, якія гараджане называюць "сцякляшкамі", то рашэнне на іх знос ёсць.

Уласнік падаваў у суд, каб аспрэчыць рашэнне, але суд адмовіў яму ў праве падаўжэння карыстання гэтым зямельным участкам.

Начальнік землеўпарадкавальнай службы Маладзечанскага райвыканкама **Дзмітры Клопаў** патлумачыў:

– Рашэнне суда яшчэ не ўступіла ў сілу. Ва ўласніка зямельнага ўчастка ёсць 10 дзён, каб аспрэчыць рашэнне ў судзе. Калі гэтага не адбудзецца, праз 10 дзён можна будзе агучваць дату зносу крамаў на плошчы.

Найбольш верагоднымі будынкамі, якія могуць быць на месцы паркоўкі, Святлана Хрусталёва назвала новы будынак выканаўчага камітэта або новы ЗАГС.

– Размовы пра тое, што гораду патрэбны новы ЗАГС, вяліся яшчэ перад "Дажынкамі". Называлася месца як на плошчы, так і ў парку, на месцы былой танцпляцоўкі. Але зноў усё ўпіраецца ў грошы. Першапачатковая задача – пабудаваць садок-школу ў 14-м мікраараёне.

**Наталля ТУР.**

● КУЛІНАРНАЕ МАСТАЦТВА

## Узяла "золата" на чэмпіянаце кандытараў

МАЛАДЗЕЧНА

**Працу навучэнкі Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа Кацярыны Карпіновіч адзначылі залатым медалём на Міжнародным чэмпіянаце кандытарскага мастацтва.**


Фота з сайта ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.

Кацярына Карпіновіч, навучэнка каледжа.


Фота з сайта ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.

Праца Кацярыны ўзяла першае месца ў намінацыі "Скульптура з пасцілажу".

Праходзіў ён у Мінску ад 8 да 11 верасня ў межах 11 міжнароднай спецыялізаванай выставы "Хлебная і кандытарская справа-2015".

Вызначылася Кацярына ў намінацыі "Скульптура з пасцілажу". За аснову кампазіцыі "Выкананне жаданняў" узялі марское дно, дзе размясцілі дзве залатыя рыбкі, замак, ракавінкі, марскія зоркі. Залатыя рыбкі заклікаюць выканаць жаданні ўсіх, хто бачыць гэту кампазіцыю. Каля скульптуры паставілі шкляны фужэр, у які наведнікі і ўдзельнікі выставы клалі запіскі са сваімі жаданнямі.

Кацярына Карпіновіч цвёрда перакананая, што сутнасць яе прафесіі не толькі ў тым, каб спячы як мага больш хлеба, батонаў, булачак, тартоў і "заваліць" імі прылаўкі крам. Трэба, каб усё гэта было смачнае, прыгожае і апетытна выглядала, бо нават звычайную булачку можна ператварыць у сапраўдны шэдэўр кулінарнага мастацтва.

**Паводле ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.09 руб. | 17.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 17 807,00 | **17 720,00** |
| Еўра | 19 898,00 | **19 947,00** |
| Злоты | 4 735,53 | **4 740,76** |
| Расійскі рубель | 263,13 | **268,80** |
| Грыўня | 810,79 | **811,91** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 16.09** | | |
| Еўра | 19800/20000 | **19900/20100** |
| Долар ЗША | 17750/17870 | **17700/17800** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 9.09 | 16.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 136 200 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 54 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 95 000 | **95 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37 500 | **37 900** |
| Селядзец, 1 кг | 48 000 | **49 500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 120 000 | **115 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **13 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 12 000 | **12 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12 000 | **10 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 000 | **23 000** |
| Маянэз, 200 г | 5 000 | **5 000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 200 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 11 000 | **11 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 000 | **6 900** |
| Капуста, 1 кг | 5 000 | **4 900** |
| Морква, 1 кг | 7 000 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 12 000 | **9 900** |
| Лімоны, 1 кг | 37 000 | **39 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 000 | **27 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | **29 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 32 000 | **29 900** |
| Ківі, 1 кг | 45 000 | **37 500** |
| Нектарыны, 1 кг | 20 000 | **26 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **5 900** |
| Памідоры, 1 кг | 8 000 | **7 500** |
| Агуркі, 1 кг | 8 000 | **5 900** |
| Перац, 1 кг | 12 500 | **11 900** |
| Вінаград, 1 кг | 27 000 | **26 500** |
| Бананы, 1 кг | 16 000 | **21 500** |
| Кавун, 1 кг | 5 000 | **4 500** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 12 000 | **12 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 8 500 | **9 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 27 500 | **21 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **15 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 5 000 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 140 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 22 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 55 000 | **60 000** |



Фота s00.yaplakal.com.

Трое мужчын нападпітку скралі матаблок і паехалі ў суседнюю вёску. Ілюстрацыйнае фота.

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Сабралі і ўгналі мотаблок знаёмага

АШМЯНЫ

**У жніўні суд Ашмянскага раёна разгледзеў і прыняў рашэнне па справе ашмянцаў, якія незаконна ўзялі мотаблок у знаёмага і паехалі ў суседнюю вёску.**

Само здарэнне адбылося 15 чэрвеня каля дзвюх гадзін дня. Трое п'яных мужчын (1991, 1983, 1987 гадоў нараджэння), папярэдне дамовіўшыся, прыехалі да знаёмага ў вёску Гарлінпчына. Праз гадзіну яны ўзялі мотаблок без рэгістрацыйных знакаў, які знаходзіўся ў хляве.

## Лезлі ў хлеў праз праём паміж дзвярамі і зямлёй

Самы малады з мужчын спачатку праз праём паміж дзвярамі і зямлёй залез у хлеў, дзе знаходзіўся прычэп ад мотаблока. Ён адчыніў дзверы, закрытыя знутры на кручкі. Іншыя мужчыны дапамаглі выцягнуць прычэп.

Далей 28-гадовы мужчына праз гарышча пралез у суседнее памяшканне хлява, дзе захоўвалася хадавая частка мотаблока. Там скарыстаўся інструментам, з дапамогай якога адкрыў дзверы. Хадавую частку мужчыны выцягнулі на двор, сашчапілі яе з прычэпам, завялі рухавік і паехалі ў накірунку вёскі Гуцянята. Але кампанія далёка не ад'ехалася, іх спыніла міліцыя недалёка ад вёскі Гарлінпчына.

Мотаблокам кіраваў 28-гадовы мужчына. Летась у верасні ён быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу 7 мільёнаў 500 тысяч рублёў і пазбаўлены права кіравання любымі транспартнымі сродкамі на тры гады. У той раз ён, не маючы правоў на кіраванне транспартнымі сродкамі, ездзіў п'яны па дарогах побач з вёскай Каменны Лог. Яго спынілі супрацоўнікі Ашмянскага РАУС. Машына ВАЗ-21063 канфіскаваная.

На судзе мужчына цалкам прызнаў сваю віну ў здзейсненых злачынствах, пацвердзіў, што ён разам з двума мужчынамі ўзялі чужы мотаблок.

## Пацярпелы прасіў не караць строга

Матэрыяльную шкоду пацярпеламу кампенсавалі. У судзе ён прасіў не караць строга абвінавачаных, бо тыя кампенсавалі матэрыяльную шкоду ў дастатковым памеры.

Улічваючы доказы па справе, а таксама прызнанні абвінавачаных, суд палічыў іх віну даказанай. Дзеянні мужчын кваліфікаваныя як неправамернае авалоданне транспартным сродкам і паездка на ім без мэты угону альбо крадзяжу, здзейсненая групай асоб па папярэдняй змове.

Вызначаючы від і меру пакарання абвінавачаных, суд улічыў характар і ступень грамадскай небяспекі, тое, што яны ўпершыню прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці і станоўча характарызуюцца па месцы жыхарства.

Змякчальнымі абставінамі былі чыстасардэчнае прызнанне, добраахвотная кампенсацыя матэрыяльнай шкоды і наяўнасць у двух абвінавачаных па малалетнім дзіцяці.

Двум мужчынам, 1991 і 1983 гадоў нараджэння, прысудзілі пакаранне ў выглядзе абмежавання свабоды без накіравання ва ўстанову закрытага тыпу на тры гады кожнаму.

Мужчыну 1987 года нараджэння прысудзілі два гады шэсць месяцаў калоніі агульнага рэжыму. Таксама ён пазбаўлены права кіраваць машынай пяць гадоў і да штрафам у памеры 150 базавых велічынь (27 мільёнаў рублёў).

Згодна з медыцынскім заключэннем, мужчыны залежныя ад алкаголю, у месцах адбывання пакарання яны будуць праходзіць лячэнне.

**Паводле суда Ашмянскага раёна.**

● СЛУЖБА 101

## На Вілейшчыне згарэлі гараж з "Фольксвагенам"

ВІЛЕЙКА

**Адбылося гэта 13 верасня ў вёсцы Шыпкі Хаценчыцкага сельсавета.**

Каля 19 гадзін вяскоўцы заўважылі дым. Падышлі бліжэй і ўбачылі, што гарадзь суседскія пабудовы. Выклікалі выратавальнікаў.

Па іх прыбыцці пабудовы гарэлі адкрытым полымем. Да прыезду выратавальнікаў адзін з гаспадароў насіў ваду і спрабаваў патушыць полымя, але не ўдалося, расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў**.

У выніку пажару агонь знішчыў хлеў і гараж, у якім стаяў аўтамабіль "Фольксваген-Пасат" 1991 года выпуску. Абгарэў склеп з бярвення.

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**





● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Знайшоўся мужчына, якога шукалі на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**"Рэгіянальная газета" паведамляла, што вышукваюць 45-гадовага мужчыну. Ён 31 жніўня вызваліўся з лячэбна-працоўнага прафілакторыя Навагрудка. Але ў Вілейку, дзе жыў, не вярнуўся.**

Аб'явіўся мужчына ў Вілейцы 10 верасня, расказала оперупаўнаважаная аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Кацярына Курэц**.

Са слоў мужчыны, грошай на дарогу з Навагрудка не было і не прасіў. Вырашыў пайсці пехатой. Дабіраўся да Вілейкі 10 дзён. Тлумачыў, што начаваў у лесе, харчаваўся яблыкамі, грушамі і кукурузай.

У Вілейскім раёне мужчыну пачалі пазнаваць і падвозіць. Казалі людзі, што яго шукаюць: бачылі ў сацсетцы "Аднакласнікі" спасылкі на інфармацыю на сайце нашай газеты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У 87-гадовай жыхаркі Насілава скралі кашалёк з пенсіяй

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося 12 або 13 жніўня.**

87-гадовая жанчына атрымала тры мільёны 900 тысяч рублёў пенсіі. Грошы паклала ў кашалёк. Калі выходзіла са сваёй кватэры, забылася замкнуць дзверы.

Хтосьці зайшоў у кватэру і забраў кашалёк з грашыма.

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу супраць злачынцы, асоба якога пакуль невядомая.

Пра гэта здарэнне "Рэгіянальнай газеце" расказаў следчы Маладзечанскага аддзела РАСК **Андрэй Ложачнік**.

**Наталля ТУР.**

● СЛУЖБА 101

## У Мядзеле на пажары выратавалі мужчыну

МЯДЗЕЛ

**Пасля 21 гадзіны 10 верасня выратавальнікам паведамілі пра пажар у трохпавярховым доме па вуліцы Нарачанскай.**

Пра пажар паведамілі суседзі. Выратавальнікі знайшлі ля акна ў кватэры 55-гадовага мужчыну і вывелі яго.

Мужчына надыхаўся дымам, яго забрала "хуткая". Але пазней ён сам пакінуў бальніцу.

У кватэры згарэла крэсла, табурэтка, частка адзення. Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні, паведаміў інспектар нагляду і прафілактыкі **Ігар Балаш**.

**Аддзел інфармацыі.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць відавочцаў аварыі, у якой збілі кітайцаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта шукае сведкаў і відавочцаў аварыі, якая адбылася 13 жніўня каля 8:30.**

Аўтамабіль "Шаўрале-Ніва" непадалёк ад Хоўхлава ехаў у бок вёскі. Праз аварыю машына з'ехала на абочыну і сутыкнулася з дрэвам. У выніку пацярпелі грамадзяне КНР.

Відавочцамі ДТЗ маглі стаць кіроўцы вялікагрузных і легкавых аўто, якія падчас здарэння ехалі ў супрацьлеглы бок, на Валожынскі раён.

Просім сведкаў і відавочцаў звярнуцца да следчага **Рамана Вітальевіча Арцёмава** па тэлефоне: (80176) 77-04-69 ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні.

**Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта.**

ЗДАРОЎЕ

# Кляшчы актыўна кусаюць віляйчан

ВІЛЕЙКА

**Віляйчанін вярнуўся з лесу і знайшоў на целе кляшча. Выцягнуў яго сам, у бальніцу не звяртаўся. Ужо і забыўся пра гэты выпадак, але праз нейкі час з'явіліся болі ў суставах і мышцах, слабасць. Давялося ісці да доктара. Аказалася, з-за укусу кляшча захварэў на хваробу Лайма.**

Амаль па такім сцэнарыі разгортваліся падзеі ў Вілейскім раёне, дзе сёлета зафіксавалі тры выпадкі хваробы Лайма. Летась быў толькі адзін.

За восем месяцаў на Вілейшчыне да медыкаў звярнуліся 77 чалавек з укусам кляшчоў. Гэта значна больш, чым летась, расказвае доктар-эпідэміёлаг Вілейскага РЦГЭ **Кацярына Матошка**.

Сезон актыўнасці кляшчоў яшчэ не скончыўся. Заканчваецца ён звычайна ў кастрычніку.

Спецыяліст раіць асаблівую увагу звярнуць на дзяцей. Сёлета да медыкаў з укусамі звярнуліся 40 дзяцей і падлеткаў да 17 гадоў.

– Варыянтаў засцярогі, па вялікім рахунку, два: правільнае адзенне – штаны, высокія шкарпэткі, кофта з доўгімі рукавамі, галаўны ўбор. І добры рэпелент: спрэі, крэмы, мазі, – тлумачыць Кацярына Матошка. – Другі важны момант – пільны агляд дома. Распраніце дзіця і ўважліва агледзьце з ног да галавы, асаблівую ўвагу надайце валасам. Таксама важна агледзець вопратку – клешч можа схавацца там і прысмактацца, калі дзіця зноў яе надзене.

Нават калі вы вынялі кляшча самі, усё роўна трэба паказаць дзіця доктару. Клешч можа заразіць чалавека многімі вірусамі і бактэрыямі. Яны выклікаюць клешчавы энцэфаліт, барэліёз, гемарагічную ліхаманку і іншыя небяспечныя захворванні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота abcNEWS.com.

**Вядомая канадская спявачка Аўрыл Лавін пяць месяцаў была прыкаваная да ложка з-за хваробы Лайма. Падчас адпачынку на прыродзе спявачку ўкусіў клешч. Хвароба ледзь не зрабіла яе інвалідам. Аўрыл не магла нармальна дыхаць, ледзь гаварыла і рухалася. Дактары пераблыталі хваробу Лайма са звычайнай стомленасцю. Спявачка паставіла сабе дыягназ сама, перачытаўшы мноства інфармацыі ў інтэрнэце, а пасля яго пацвердзіў доктар. Пра гэта зорка са слязамі на вачах расказала на ранішнім шоу Good Morning America.**



Ілюстрацыя, як выцягваць кляшча пінцэтам.

**Даведка "РГ".** **Хвароба Лайма**, ці клешчавы барэліёз – бактэрыяльнае захворванне, якое перадаецца кляшчамі. У месцы прысмоктвання кляшча звычайна праз адзін-два тыдні (часам гэты тэрмін павялічваецца да двух месяцаў) з'яўляецца чырвоная пляма з прасветленай сярэдзінай, якая расце ў памерах. Без своечасовага лячэння хвароба набывае хранічнае цячэнне з цяжкімі паражэннямі сардэчна-сасудзістай і нервовай сістэм, печані і апорна-рухальнага апарата. Паводле Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміёлагіі і грамадскага здароўя.

## Што рабіць, калі клешч вас усё ж такі ўкусіў?

Лепш як мага хутчэй звярнуцца да доктара. Калі не можаце патрапіць у паліклініку, прытрымлівайцеся такіх рэкамендацый.

1. Магчыма, вы чулі параду, што на кляшча трэба капнуць некалькі кропель алею, каб перакрыць доступ да кіслароду. Аднак гэты спосаб спрацоўвае не заўсёды. Часам клешч памірае, не выпаўзаючы. Таму лепш паспрабаваць выдаліць яго пінцэтам.

2. Прыцісніце кляшча ватным тампонам, добра прамочаным спіртам. Акуратна прыхапіце яго пінцэтам і пачынайце як бы "выкручваць" супраць стрэлкі гадзінніка, трымаючы пінцэт строга перпендыкулярна. Рабіце гэта паволька, каб у целе не засталася галоўка кляшча.

3. Выдаліўшы кляшча з цела, старанна прадэзінфікуйце месца ўкусу. Вымыйце рукі.

4. Калі ў целе засталася галоўка кляшча, ідзіце да доктара.

5. Не спяшайцеся пазбаўляцца ад кляшча. Змясціце яго ў невялікі шкляны слоічак з вільготным кавалкам ваты або папяровай сурвэткі, а затым занясіце ў лабараторыю Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. У лабараторыю мае сэнс несці толькі цэлага і жывога кляшча.

Калі вы не лічыце патрэбным правяраць кляшча ў лабараторыі, тады спаліце.



БІБЛІЯТЭКІ

## Віншаваць школьнікаў прыехалі з амбасады

МАЛАДЗЕЧНА

У бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок" 8 верасня адбылося свята замежнай кнігі.

Другі год праходзіць акцыя "Лета з кнігай", у якой удзельнічаюць школьнікі, што чытаюць на замежных мовах.

У верасні падвялі вынікі, і самыя актыўныя ўдзельнікі сталі героямі вялікага свята.

Супрацоўнікі інфармацыйнага цэнтра амбасады ЗША ў Мінску **Віялета Якаўлева** і **Рыгор Трухан** прыехалі павіншаваць тых, хто чытаў па-англійску.

Першае месца заняла вучаніца сёмага класа СШ №8 **Марыя Ган**. Другое месца падзялілі трэцякурсніца гандлёва-эканамічнага каледжа **Дыяна Башаркова** і вучаніца гімназіі №6 **Кацярына Завадская**.

Школьнікі прынялі ўдзел у конкурсе ілюстрацый да кнігі Фрэнка Баўма "Чараўнік краіны Оз". Пераможцамі сталі трэцякласніца **Кацярына Дашкевіч** і сямікласніца **Дар'я Кандратовіч** з гімназіі №10.

Інстытут Гётэ перадаў падарункі школьнікам, якія чытаюць па-нямецку, а французская амбасада – тым, хто па-французску.

11-класніца СШ №5 **Юлія Хвясечка** другі раз стала пераможцай конкурсу "Лета з кнігай".

Упершыню ўзнагародзілі тых, хто чытаў на польскай мове. Самымі актыўнымі ўдзельнікамі аказаліся вучні гімназіі №10.

**Таццяна ЛЕТУНОВА,**
**бібліятэкарка цэнтральнай раённай бібліятэкі, Маладзечна.**

ПАДЗЕІ

## Як адзначаць 150-годдзе царквы ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

У выставачнай зале краязнаўчага музея 16 верасня адбылося адкрыццё новай выставы. Прымеркаваная яна да 150-годдзя царквы Прападобнай Марыі Егіпецкай у Вілейцы.

На выставе прадстаўлені дакументы з архіваў Беларусі і Літвы, што тычацца будаўніцтва храма, дакументы з архіва вілейскай царквы. Паказваюць унікальныя прадметы культу і царкоўныя рызы канца 19 – пачатку 20 стагоддзяў. Таксама наведнікі могуць пабачыць вялікую калекцыю фотаздымкаў царквы розных часоў.

– Усе прадстаўленыя на выставе дакументы і прадметы культу ўнікальныя і шырокай публіцы будуць прадстаўленыя ўпершыню, – расказаў дырэктар краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

Асобным раздзелам паказваюць прадметы і дакументы з найбольш старажытных храмаў Вілейшчыны.

### Урачыстасці пройдуць у суботу

На 19 верасня ў Вілейцы намечаныя ўрачыстасці, прысвечаныя 150-годдзю царквы.

А дзявятай гадзіне раніцы пачнецца святочнае набажэнства, потым адбудзецца адкрыццё Дома духоўнай асветы.

У 14:30 адбудзецца святочны канцэрт у Палацы культуры. Там жа пройдуць розныя выставы.

**Аддзел інфармацыі.**

МУЗЕІ

## Смаргонскі музей атрымаў кнігі і звесткі па Першай сусветнай

СМАРГОНЬ

У Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі 15 верасня прайшоў круглы стол на тэму "Першая сусветная вайна – старонкі гісторыі". Праводзіўся ён у межах мерапрыемстваў да 100-годдзя пачатку гераічнай абароны Смаргоні.

Падчас круглага стала кіраўнік Федэральнага архіўнага агенцтва Расіі **Андрэй Арцызаў** перадаў музею кампакт-дыскі. На адным з іх прыведзены ўліковы склад 16-га Мінгрэльскага грэнадзёрскага палка, якія ваявалі пад Смаргонню. На другім – паслужны спіс **Міхаіла Зошчанкі** (вядомы пісьменнік удзельнічаў у баях на Смаргоншчыне).

Таксама Андрэй Арцызаў перадаў навуковы зборнік "Кінафотахроніка. Вялікая вайна.

Атрымаў музей кнігу і ад беларускага пісьменніка і журналіста **Вячаслава Бандарэнкі**.

Пра гэта паведаміў галоўны захавальнік фондаў музея **Павел Картавік**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАМЯЦЬ

# Агінскага вяртаюць на Радзіму

МАЛАДЗЕЧНА

**25 верасня грамадскасць Беларусі будзе адзначаць 250 год з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага.**

Адным з ініцыятараў і "рухавікоў" ідэі адраджэння і ўшанавання памяці Агінскага ў Беларусі стаў заслужаны дзеяч культуры, кавалер ордэна Францішка Скарыны, дырэктар Маладзечанскага музычнага каледжа **Рыгор Сарока**. Дзякуючы яго намаганням у 1995 годзе музычнаму каледжу прысвоілі імя кампазітара. У лістападзе 1995 года фасад каледжа ўпрыгожыла копія мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Міхалу Клеафасу, а яе арыгінал у 1996 годзе ўсталявалі ў Фларэнцыі, на фасадзе дома, дзе кампазітар правёў свае апошнія гады.

1 верасня 2001 года дзякуючы намаганням Рыгора Сарокі і яго паплечнікаў на пляцоўцы перад уваходам у музкаледж усталявалі адзіны ў Беларусі помнік Агінскаму. Аўтарам абодвух твораў стаў скульптар **Валяр'ян Янушкевіч**.

Рыгор Сарока стаў ідэйным натхняльнікам стварэння першай нацыянальнай оперы, прысвечанай асобе Міхала Клеафаса. Дзякуючы зладжанай працы кампазітара **Алега Залётнева**, лібрэтыста **Сяргея Макарэя**, сімфанічнага аркестра каледжа і яго кіраўніка, салістаў і змешанага хору ў 2013 годзе на сцэне Палаца культуры адбылася прэм'ера оперы "М.К. Агінскі. Невядомы партрэт".

Ад 2012 года ў Маладзечне працуе дабрачынны фонд "Спадчына М.К. Агінскага". З удзелам членаў фонду стварылі дакументальны фільм "Рана ў сэрцы. М.К. Агінскі" (рэжысёр **Анастасія Мірашнічэнка**), паставілі оперу Алега Залётнева і выдалі яе партытуру, перавыдалі буклет "Вяртанне" (аўтары **Вольга Корсак** і **Вольга Царык**), зладзілі музычнае турнэ "Музыка княжага роду Агінскіх".

У межах святкавання юбілею вялікая работа вядзецца ў вёсцы Абор, дзе нарадзіўся асабісты сакратар Агінскага **Леанард Ходзька**. Сіламі прадстаўнікоў фонду і супрацоўнікаў музкаледжа вычысцілі тэрыторыю, дзе знаходзіўся касцёл святога Роха, адрэстаўравалі крыж, зрабілі падмурак для маления, прывялі ў належны выгляд фамільны склеп Ходзькаў-Дэдэркаў, знайшлі камяні з імёнамі роду.

Да кастрычніка завершаць частку рэстаўрацыі: адновяць браму, паставяць агароджу, усталююць памятную дошку і камень на месцы, дзе стаяў дом Ходзькі.

За апошнія гады адбылося сапраўднае вяртанне Агінскага на Радзіму.

Падчас святкавання юбілею ў музкаледжы пройдуць канцэрты, музычна-літаратурныя вечары, навуковыя канферэнцыі, мультымедыйныя прэзентацыі, мастацкія выставы.

**Вольга ЦАРЫК, Маладзечна.**

**Выйграйце білет на оперу пра Агінскага**




**Маладзечанскі Палац культуры прапануе выйграць білет на оперу "Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт". Яна адбудзецца 25 верасня а 19 гадзіне. Каб удзельнічаць у розыгрышы, прапануйце свой варыянт, як працягнуць радок верша: "Над Залессем гучыць паланэз". Верш дасылайце па электроннай пошце: regionnews@rh.by.**

ІМПРЭЗЫ

## Мастак: "Хто ж малюе з натуры, калі пад рукой фотаапараты?"

МАЛАДЗЕЧНА

**У фае Палаца культуры працуе выстава мастака Юрася Церабуна.**

На ёй прадстаўлены 24 работы аўтара, выкананыя ў рознай тэхніцы.

Там можна пабачыць як графічныя, так і жывапісныя работы аўтара.

Пейзажы, партрэты – якіх толькі карцін няма на выставе!

– І гэта толькі маленькая частка тых карцін, якія я прынёс у палац. Каля сотні работ так і засталіся ляжаць у папках.

На пытанне, чаму карціны пакінулі без подпісаў, Юрась Васільевіч рассмяяўся і адказаў:

– Гэта ж эцюды, іх падпісваць, што блох лавіць – вельмі дробныя.

**– Вы свае пейзажы малюеце з натуры?**

– Хто цяпер малюе з натуры? Ва ўсіх мастакоў ёсць фотаапараты. Пстрыкнуў кадр, пагуляў на прыродзе і дамоў маляваць. Фотаздымак – гэта таксама бачанне мастака. Хто ж перашкодзіць мне намаляваць карціну з майго ўласнага фотаздымка?

Выстава працуе ад 3 верасня, яе ўжо наведалі не толькі аматары жывапісу, але і сябры Юрыя Васільевіча, яго калегі-мастакі.

Па добрай традыцыі многія пакінулі водгукі.

Дырэктар дзіцячай мастацкай школы **Алена Кучко** напісала:

"Дзякуй за выставу! Кранае і душу, і сэрца да глыбіні. Буду прыходзіць сюды кожны дзень. Столькі любові, пачуццяў, дасканаласці, трапяткога адчування рэчаіснасці, віртуознасці, майстэрства, прыгажосці, мужнасці, прасторы і музыкі".

А мастак **Мікалай Аўчыннікаў** заўважыў, што: "Ад вашых работ такая цеплыня, такая павага да прыроды Беларусі..."

Раздзяліць захапленне тых, хто ўжо наведаў выставу, а таксама атрымаць свае непаўторныя ўражанні можна да 29 верасня.

**Наталля ТУР.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі А6 С5, 1998 г.в., 2,4Б, зялёны. Т. (8-029) 3362994.*

• Аўдзі А6, СЧ, 1997 г.в., 2,5 ТДІ, МКПП, поўны прывод. Т. (8-029) 9176755.

• Аўдзі-100, 1988 г.в., 2,3і, ц/з, чырвоны, у добрым стане, 45 000 000 руб, торг. Т. (8-044) 7711831.*

• ВАЗ-2105, 1991 г.в., люк, 5-СТУ. Т. (8-025) 9477259.

• ГАЗ-3110 "Волга", 1999 г.в., шэры. У добрым стане. 18 000 000 руб. Т. (8-01771) 35150, (8-029) 1935969.

• Мазда-323, 2001 г.в., 1,6 аб'ём, МКП, седан, бензін. Тэрмінова. Т. Вэлком (8-029) 91165264.*

• Матацыкл "Мінск". Т. (8-029) 7617385.

• Мерсэдэс W210 (Італія), 3,2 бензін-газ, ёсць усё. Т. (8-033) 6314569.

• Опель-Астра В, 1999 г.в. Т. (8-029) 6056632.

• Опель-Вектра, 1993 г.в., 1,7ТД, 19 000 000 руб. Т. (8-029) 7038367.*

• Опель-Зэмфіра, 2000 г.в., 2,0 дызель, цёмна-сіні. Т. (8-029) 5052314.*

• Пежо-307, 2004 г.в., 1,4 бензін, светла-шэры. Т. (8-033) 6373832.

• Пежо-307, 2005 г.в., 1,6НДІ, чорны хэтчбэк, 3 дзв., электразэгуляр., бакавыя люстэркі, цэнтр. замок, слот д/sim-карты, СД-прайгравальнік, 1 гаспадар па РБ. Т. (8-029) 6677258.*

• Рэно-Меган, 1998 г.в., 1,6 газ-бензін, хэтчбэк. Т. (8-029) 7571651, (8-029) 3437838.

• ФВ-Гольф 3, 1993 г.в., 2,0і, добры стан, камплект зімовай гумы. Т. (8-044) 5307685.*

• ФВ Т-2, 1989 г.в., рухавік 1,6. Т. (8-029) 3187448.*

• ФВ-Транспарцёр Т-2, 1,6 дызель. Цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 5653751.

• Фіят-Марэа, 1996 г. в., 1,6 бензін, 5-КПП, цёмна-сіні, седан. Т. МТС (8-029) 5593212.*

• Форд-Транзіт, 1991 г.в., па запчастках. Т. (8-029) 6571997.

• Шаўрале-Спарк, 2012 г.в.,з Германіі, свежапрыгнаны, 5 дзвярэй, чорны, хэтчбэк, 71 тыс. км, 2 ключы, 120 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 6631595.*

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава. а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 6757851.*

• Аўтамабіль, іншамарку, можна з дэфектамі да 30 млн.руб. Т. (8-044) 5572534.*

• **АЎТО** ў любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Любое аўто, з любымі праблемамі, аварыйнае альбо на запчасткі. Т. (8-033) 6920802.*

## ПАСЛУГІ

• **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Арэнда **ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** АМКАДОР (коўш 2 куб. м), **ЭКСКАВАТАРЫ-ПАГРУЗЧЫКІ** JCB4CX і Беларус 92П (планіроўка, падрыхтоўка ўчастка, катлаваны, траншэі, мантаж калодзежаў, пагрузка смецця), **САМАЗВАЛЫ** 10-, 20-, 30- і 40-тонныя (**БЕТОН**, пясок, гравій, шчэбень, **ПРЫРОДНЫ КАМЕНЬ**, вываз смецця, **ЗНОС БУДЫНКАЎ**), **АЎТАБЕТОНАЗМЯШАЛЬНІК** 6 куб. м, **ГІДРАМАНІПУЛЯТАР** з прычэпам 22 тоны (16 паддонаў). ТАА "Матэк Про". УНП 691501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• **АРЭНДА ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** ТО-18Б, катлаваны, пагрузка, планіроўка. ІП Каўпак О.Т. УНП 691500412. Т. (8-044) 7645096.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5062372.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, ТРАНШЭІ ПАД ВАДУ, ГАЗ, ПАДМУРАК. ІП КРОЕР А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.***

• Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі міні-пагрузчыка, міні-экскаватара, колавага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў аг. Беразінскае, 40 кв.м, чысты продаж. Маладзечна. Т. (8-029) 3490384, (8-044) 7922998.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт. Т. (8-033) 6373832.

• 2-пакаёвая кватэра, гараж у Вілейцы. Т. (8-029) 7078401.*

• 3-пакаёвая кватэра па вул. Гагарына, д.11, кв.15 у Вілейцы ці абмен на 1-пакаёвую. Т. (8-033) 3209338, (8-01771) 78079.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай ці абмен. Т. (8-029) 7661769.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт. Т. (8-044) 4749439, (8-029) 7760346.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. Замкавай, 1 паверх. Т. (8-029) 888111.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул.В. Гасцінец, д,119, 1980 г, дом цагляны, 64,4 кв. м. Т. (8-029) 6411879.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, палепшанай планіроўкі, 83 кв.м, тэрмінова. Т. (8-029) 3343999.

• Гараж 5,60 м х 3,80 м. Святло, сухая яма, атынкаваны, дах дрэва, накрыты шыферам, знаходзіцца ў тупіку. Маладзечна, р-н Лясных. 49 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5633465, Вэлком (8-029) 9628589.

• Гараж у ГБК-2, блок 7, № 22. Тэл. (8-029) 8527882.

• Гараж у ГБК-5 у Вілейцы. Т. (8-029) 5052314.*

• Дача 2-павярховая, драўляная, СТ "Мараніца", ст. Баяры, вул. Садовая, дом 2. Цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 1092881, (8-017) 2589674 ў Мінску.*

• Дача ў в. Прынта Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 54993.

• Дом з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7324445.

• Дом пад дачу у в. Курнікі Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 33930.*

• Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участок 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы аформлены. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*

• Дом у в. Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.

• Дом у в. Шылавічы з мэбляй. Т. (8-025) 9684543, (8-01771) 38292, Наталля.*

• Дом у Маладзечне па вул. Грыцаўца, камунікацыі, газ, выгоды ў доме, гараж. Т. (8-029) 2608541.*

• Дом у цэнтры Смаргоні, драўляны, 61,5 кв.м, 15 сотак, газ, гараж. Абмен на кватэру. 540 000 000 руб. Т. (8-029) 6671929.

## КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 3780215.*

## МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру 69,5 кв. м у р-не Зеніт на 1-пакаёвую з даплатай. Т. (8-029) 8615201.*

## ЗДАМ

• 3-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін па вул. Ларына, 5, усё ўключана. Т. (8-029) 1282652.*

• У арэнду гараж у Маладзечне ў ГК №12. Т. (8-029) 5681972, (8-029) 1752702.*

• **У АРЭНДУ ПАМЯШКАННІ Ў ЦЭНТРЫ ВІЛЕЙКІ КУП "САДРУЖНАСЦЬ":** 16,4 кв.м, 21,5 кв.м, 11 кв.м, памяшканне магазіна – 36 кв.м. УНП 600102234.Т. (8-01771) 54382, (8-01771) 54283.





• У арэнду ці прадаюцца вытворчыя памяшканні (майстэрні) агульнай плошчай 168 кв.м у раёне чыгункі г. Маладзечна. Можна пад СТА (ёсць гаражныя боксы, два ўчасткі зямлі ў пастаянным карыстанні, цэнтральнае ацяпленне). ТАА "Механічны завод" УНП 600542830. Т. (8-044) 7641131 (пн.-пт. з 8:00 да 17:00).

## НАЙМУ

• Маладая сям'я найме 1-2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на доўгі тэрмін. Аплату і парадак гарантуем. Т. (8-029) 3136958.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ



• Відэаздымка вяселляў, банкетаў і інш. урачыстасцяў. Падарыце сабе фільм, які будзе цікава глядзець доўгія гады! ІП Сысоеў А.А., УНП 691892382. Т. (8-029) 5063428.*

• Вяселлі. Юбілеі. Карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Заказ аўтобуса, 15 месцаў. Экскурсіі, вяселлі, юбілеі. ІП Маўчун А.В. УНП 691175867. Т. (8-029) 5684107.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі да 3 тон, горад, РБ, кватэрныя пераезды. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі да 4 т, тэнтаваны, дубль кабіна, 6 (шэсць) пасажыраў. ІП Шалуха С.Ф. УНП 690021247. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Рэно 20 т, 13,6 м, адкрыты, бартавы, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*



• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• Бурэнне абісінскіх свідравін (скважын) на ваду. Уладкаванне. Хутка. У любым цяжкадаступным месцы. Дагавор. Гарантыя. ІП Сокалаў Я.В. УНП 691891478. Т. (8-029) 1155222, (8-033) 6339011.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Янцэвіч А.Р. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*

• **ВАРОТЫ, АГАРОДЖЫ, КАЗЫРКІ, ПОРУЧНІ, МЕТАЛАВЫРАБЫ. ІП АЛЕСКІЎ А.В. УНП 691889597. Т. (8-029) 5015072.***

• **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ І АБЛІЦОЎКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Выраблям і прадаём пенапласт 15-20-25 шчыльнасці. ІП Панічаў А.І. УНП 591802484. Т. (8-029) 9345433, (8-033) 6582077, (8-01592) 61135 пасля 18.00.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*



• Вырабы з металу: дзверы ўваходныя (вонкавыя, ліст 2 мм); вароты гаражныя, уязныя і адкатныя, брамкі, агароджы; навесы, казыркі, альтанкі; агароджы, лаўкі і столік для абуладкавання магілак; рашоткі на вокны; сцелажы зварныя і разборныя; скрыні газавыя; урны, кантэйнеры для ТБА, у тым ліку аўтамабільныя (12/17 куб. м); катлы і ёмістасці і інш. па эскізах заказчыка; шафы для адзення, апоры асвятлення; прыпыначныя пункты; электрашчыты і камплектацыя для падключэння прыватных дамоў; **НАВЯСНОЕ АБСТАЛЯВАННЕ І ПРЫЧЭПЫ ДЛЯ МОТАБЛОКАЎ.** Замеры, дастаўка, устаноўка. **АКАЗВАЕМ ПАСЛУГІ ПА ПАЛІМЕРНАЙ АФАРБОЎЦЫ МЕТАЛАВЫРАБАЎ І ПЛАЗМЕННАЙ РЭЗЦЫ.** ТАА "Механічны завод" УНП 600542830. Т. (8-029) 5040423, (8-0176) 746060 (пн-пт з 8-00 да 17-00).*

• **ДЗІЦЯЧЫ НЕЎРОЛАГ**, доктар вышэйшай катэгорыі, прымае ў медыцынскім цэнтры ТАА "Салюс" ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 159-64. УНП 690016711. Запіс: (8-0176) 744915, 744905.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Еўрасцяжка. ІП Шыдлоўскі В.А. УНП 591702887. Т. МТС (8-029) 2335084, Вэлком (8-029) 3823187.*

• Зробім альтанкі, навесы, лаўкі, вырабы з драўніны. www.artelporticus.deal.by УНП КВ 1312405. Т. (8-044) 7803145.*

• Мантаж сайдынга, вагонкі, імітацыя бруса, блок-хаўса. Укладка ламіната, паркетнай дошкі. ІП Мельнікаў Д.Ю. УНП 691892908. Т. (8-044) 7803145.*

• **МАНТАЖ, ДЭМАНТАЖ ДАХАЎ, УЦЯПЛЕННЕ ДАМОЎ ПАД КЛЮЧ, АФАРБОЎКА, ВАДАСЦЁЧКА, АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ І ІНШ.** ІП Бессараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

**Тэлефонныя коды**

| | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*




Фота Таццяны МЕЛЬНІКАВАЙ, vk.com/sw_smorgon.

На пляцоўцы для воркаўту ў Смаргоні ў жніўні правялі воркаўт-фестываль.

● СПОРТ

# З'явіцца воркаўт-пляцоўка

ВІЛЕЙКА

**У райцэнтры 26 верасня адкрыюць пляцоўку для воркаўту. Размесціцца яна ў гарадскім парку.**

Пляцоўка ўяўляе сабой комплекс з турнікоў і брусоў, шведскай сценкі.

– У нашым горадзе не было падобнай спортпляцоўкі, – тлумачыць удзельнік вілейскай каманды па воркаўце **Віталь Зубаці**. – Так што, для вілейскіх аматараў воркаўта гэта будзе добрае месца для трэніровак. І кожны ахвотны зможа прыйсці і пазаймацца без усялякіх фінансавых укладанняў. Пляцоўка дапаможа прыцягнуць віляйчан да здаровага ладу жыцця.

Расказаў Віталь, што ў Вілейцы ёсць свая каманда па воркаўце. Яшчэ шмат хто займаецца проста як аматар. У складзе вілейскай каманды чатыры чалавекі: адзін вучань, астатнія працуюць. Каманда ўжо ўдзельнічала ў спаборніцтвах ў Мінску. На адкрыцці пляцоўкі яна выступіць з паказальным выступленнем.

Адкрыццё запланавана на 14 гадзін.

**Летась з'явілася пляцоўка для воркаўту ў Смаргоні. А сёлета 1 жніўня там правялі першы смаргонскі воркаўт-фестываль.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ". Воркаўт** – выкананне розных практыкаванняў на вулічных спортпляцоўках, а менавіта на турніках, брусах, шведскіх сценках, гарызантальных лесвіцах і іншых канструкцыях, ці ўвогуле без іх выкарыстання.

ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА

# Бой за Вілейку ў 1915 годзе

ВІЛЕЙКА

**Ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі разгарнуліся ў жніўні 1915 года. Трэцяга верасня германскія войскі ўварваліся ў Вілейку. Шэсць дзён яны гаспадарылі на занятай тэрыторыі.**



Фота забяспечана Вольгай КОЛАСАВАЙ.

**Пераправа рускай артылерыі па пантонным мосце праз Вілію ля вёскі Даманова. 12 верасня 1915 года.**

Вярхоўнае камандаванне Германіі планавала выйсці на Маскоўскі напрамак і прасунуцца ўглыб Расіі. Але цяжкія баі на фронце Вільня-Смаргонь, удалая абарона важнага для фронту чыгуначнага вузла станцыі Маладзечна стрымлівалі наступленне.

Пасля баёў у раёне Маладзечна войскі 27-га корпуса пад камандаваннем 45-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра **Паўла Нікалаева**, штаб якога месціўся ў засценку Цна, атрымалі загад наступаць на Вілейку з боку Паняцічаў-Глініага-Даманова.

## Пачатак аперацыі

Аперацыя па вызваленні Вілейкі пачалася 9 (22) верасня 1915 года ў 16:00, ішла каля чатырох гадзін наступнага дня і паспяхова завяршылася ўзяццем вёсак Малмыгі, Халопы, Чарнахвостава і Воўкаўшчына.

Камандзір 27-га армейскага корпуса генерал ад інфантэрыі **Дзмітры Баланін**, які дэталёва прааналізаваў Вілейскую аперацыю і апісаў яе ў нарысе "Вілейка. Бой 10 верасня 1915 года (23 верасня па н.ст)", апублікаваным у часопісе "Ваенны зборнік", падкрэсліваў: "...у Вілейцы рускім супрацьстаялі большай часткай адборныя, натхнёныя папярэднімі перамогамі войскі праціўніка. Бой яны вялі з вялікай мужнасцю і ўпартасцю. І нашы невялікія сілы мелі рашучы поспех дзякуючы, галоўным чынам, перавазе ў артылерыі, якая сваімі ўмелымі дзеяннямі аказала неацэнную паслугу геройскай пяхоце, слабай лікам, але моцнай духам".

Агульнае кіраўніцтва па вызваленні горада ўзяў на сябе начальнік 45-й пяхотнай дывізіі генерал-лейтэнант Павел Нікалаеў.

Ён выдзеліў у састаў штурмавой групы 179-ы пяхотны Віндаўскі і 304-ы пяхотны Ноўгарад-Северскі палкі, 5-ю батарэю 45-й артылерыйскай брыгады, 3-ю батарэю 76-й артылерыйскай брыгады і дзве батарэі Івангародскага цяжкага артдывізіёна.

## Бітва за чыгуначны мост праз Вілію

Пасля энергічнай артпадрыхтоўкі рота 304-га пяхотнага Ноўгарад-Северскага палка пад камандаваннем падпалкоўніка **К.-П.Буткевіча** адкрыла кулямётны агонь па немцах, якія абаранялі чыгуначны мост праз Вілію. Восем салдат непрыкметна пераправіліся на паўночны бераг, кінуліся ў штыкі на заставу праціўніка, разбілі яе і захапілі шэсць палонных.

Скарыстаўшыся замяшаннем немцаў, адна з рот 304-га палка хутка фарсіравала Вілію ўброд. Да месца пераправы падцягнуўся 1-ы батальён 180-га пяхотнага Віндаўскага палка (камандаваў штабс-капітан **Георг Разенфельд**), і да 21 гадзіны фарсіраванне ракі паспяхова завяршылася.

Аднак на паўночным беразе пяхота наткнулася на некалькі рукавоў Віліі, што затрымала рух. Усю ноч ноўгарад-северцы і віндаўцы перапраўляліся праз водныя перашкоды і на світанні паспелі зблізіцца на 300 крокаў з праціўнікам, які заняў вышыні на паўднёвым захадзе горада.

## Падпалкоўнік Грыгорый Фрост

Да раніцы 10 (23) верасня ўся руская артылерыя, сабраная пад Вілейкай, была аб'яднаная пад камандаваннем генерал-маёра **М. Андрэева**. А 180-ы пяхотны Віндаўскі і 304-ы пяхотны Ноўгарад-Северскі палкі ўзначальваў камандзір віндаўцаў 41-гадовы падпалкоўнік **Грыгорый Фрост**.

Пагоны палкоўніка надзеў пасля вызвалення Вілейкі. Высокім загадам узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-й ступені.

Генерал-лейтэнант Павел Нікалаеў паставіў перад Грыгорыем Фростам задачу авалодаць Вілейкай да 10 раніцы. Першымі кінуліся ў атаку віндаўцы, іх падтрымалі ноўгарад-северцы. Нягледзячы на моцны агонь праціўніка, пехацінцы ў штыкавым баі ўзялі вышыні на паўднёвым захадзе Вілейкі.

Камандзірам групы войск аддалі загад: другому батальёну віндаўцаў атакаваць Вілейку з поўдня, першаму – з паўднёвага захаду, а чацвертаму палку – з захаду, з ахопам праціўніка з паўночна-заходняга боку. Пасля ўраганнага артылерыйскага агню на паўднёва-заходняй ускраіне Вілейкі ў 4:30 палкоўнік Фрост загадаў штурмаваць горад. Роты Віндаўскага і 8-я рота Вендэнскага палкоў рванулі наперад і праз некалькі хвілін ускраіна Вілейкі была ў руках рускіх. Збіты з пазіцый, праціўнік адышоў унутр горада, чапляючыся за кожны дом. Завязаўся жорсткі штыкавы бой больш за 15 хвілін. Немцы не змаглі спыніць наступленне і пакінулі горад.

## Геройскі подзвіг Максімава

Геройскі подзвіг здзейсніў камандзір роты віндаўцаў прапаршчык **Сяргей Максімаў**. Адным з першых ён разам з васьмю салдатамі хутка ўрваўся на паўночную ўскраіну Вілейкі, дзе ўбачыў нямецкую гаўбічную батарэю, з якой не спыняўся агонь, і кінуўся да яе. Спробы немцаў адбіць батарэю скончыліся правалам, бо групе Максімава спешна прыйшла падмога. Высокім загадам узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-й ступені.

Вызначыўся і першы батальён віндаўцаў, які вёў упарты крывавы бой за станцыю Вілейка. Двойчы яна пераходзіла з рук у рукі і ўрэшце засталася за рускімі. Капітан камандзір 1-га батальёна Віндаўскага палка Георг Разенфельд высокім загадам быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-й ступені.

Каля чатырох гадзін дня, пасля таго, як часці 18-й дывізіі ўзялі вёску Малмыгі, 179-й пяхотны Усць-Дзвінскі полк, камандзір палкоўнік **Іван Дацэнка** кінуўся ў атаку на вёску Халопы, штыкамі выбіў адтуль немцаў і, праследуючы іх, захапіў вёскі Чарнахвостава і Воўкаўшчына. Пасля вызвалення Вілейкі і іншых населеных пунктаў рускія часці прыступілі да замацавання занятых пазіцый у разведцы.

## Поспехі і страты

У баі за Вілейку захапілі 4-гарматная гаўбічная батарэя, 4 перадкі, 3 зарадныя скрыні, 3 кулямёты, каля 200 палонных і значныя запасы. Палонных было нямнога, бо бой на вуліцах Вілейкі быў вельмі жорсткі, і шмат германцаў перакалолі штыкамі. Па паказаннях палонных, нямногім салдатам 171-га нямецкага палка ўдалося вырвацца з Вілейкі жывымі.

Страты рускіх склалі: 14 афіцэраў, з іх чацвёра забітых, 1127 ніжніх чыноў, у ліку якіх 211 забітыя і 87 прапалі без вестак – больш за 20% смагальнікаў з сямі батальёнаў і шасці батарэй.

Аперацыя па вызваленні Вілейкі стала адной з самых значных наступальных бітваў рускай арміі на беларускай зямлі падчас вайны 1914-1918 гадоў. У гонар гэтага бою ў лістападзе 1916 года назвалі новы полк рускай арміі – 748-ы пяхотны Вілейскі.

## Узнагароды

Кіраўніку аперацыі расійскіх войск па вызваленні Вілейкі Паўлу Нікалаеву за поспех у Вілейскай наступальнай аперацыі прысвоілі званне генерал-лейтэнанта. Ён узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 1-й ступені.

Высокімі ўзнагародамі адзначылі многіх афіцэраў і салдат. 15 афіцэраў, якія здзейснілі подзвіг на Вілейшчыне, сталі кавалерамі ордэна Святога Георгія 4-й ступені, 19 – кавалерамі Георгіеўскай зброі, 42 ніжнія чыны ўзнагароджаны Георгіеўскімі крыжамі розных ступеняў.

Вызваленнем Вілейкі быў закладзены трывалы падмурак для ліквідацыі Свянцянскага прарыву, на які немцы ўскладалі вялікія надзеі. Гэта была апошняя аперацыя манеўранага перыяду на руска-германскім фронце, пасля якой абодва бакі перайшлі да пазіцыйнай вайны.

**Вольга КОЛАСАВА, старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

КАЛЯНДАР

## 19 ВЕРАСНЯ

**1991 год.** Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб змене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацверджана "Пагоня", а дзяржаўным сцягам – бела-чырвона-белы сцяг.

## 21 ВЕРАСНЯ

**40 гадоў** з дня смерці (1975) Міхася Лынькова, празаіка, літаратуразнаўца, акадэміка. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

## 22 ВЕРАСНЯ

**100 гадоў** назад (1915) пачалася аперацыя па вызваленні Вілейкі.

**135 гадоў** назад (1880) памёр Уладзіслаў Сымановіч, доктар, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. Нарадзіўся ў Вільні каля 1831 г.

## 23 ВЕРАСНЯ

**80 гадоў** назад (1935) у савецкай турме ва Уфе памёр Лявон Заяц, беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, мемуарыст. Нарадзіўся ў вёсцы Даўгінава, цяпер Вілейскі раён (сакавік 1890 г.).

**105 гадоў** назад (1910) нарадзіўся Юльян Сергіевіч (в. Юраўшчына, цяпер Маладзечанскі раён), паэт, мастак. Імя яго доўгі час было пад замком забыцця. З нападам Германіі на Польшчу ў верасні 1939 мабілізаваны ў польскую армію. Трапіў у нямецкі палон. Знаходзіўся ў лагерах для ваеннапалонных (разам з Янкам Брылём), на рабоце ў нямецкага баўэра, дзе яго выкупілі і перавезлі ў Берлін. Там працаваў у Камітэце беларускай самапомачы, якога галоўнай мэтай была апека над беларусамі, былымі жаўнерамі польскага войска, што трапілі ў нямецкі палон. А такіх было 70 тысяч. Вярнуўшыся на Радзіму пасля вайны, настаўнічаў у вёсках Ленкаўшчына і Маншчыцы Маладзечанскага раёна. Арыштаваны ў 1946-м. Да 1956 года знаходзіўся ў лагерах Поўначы, Сібіры, Казахстана. Потым працаваў у калгасе імя Леніна Маладзечанскага раёна. Мастацкія творы Сергіевіча экспанаваліся на рэспубліканскай выставе ў 1978. Яго вобраз стаў прататыпам аднаго з герояў рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды", таксама вобраз Сергіевіча як настаўніка створаны ў кнізе польскага празаіка Збігнева Жакевіча "Воўчыя лугі". Яму прысвяціў частку ўспамінаў краязнаўца Генадзь Каханоўскі, які актыўна ліставаўся з ім.

## 24 ВЕРАСНЯ

**200 гадоў** назад (1815) нарадзілася Габрыэля Альбіна Пузына (г. Вільня), польская паэтэса, мемуарыстка. Жыла ў Дзевятні (цяпер Смаргонскі раён).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Будуем мару

**Каб зрабіць жытло больш утульным, кожная сям'я сутыкаецца з рамонтам. З чаго яго найлепш пачаць, паспрабуем разабрацца разам са спецыялістамі.**


Фота mywishlist.ru

Найперш звярніце ўвагу на вокны. Калі яны выглядаюць непрыгожа і прадзімаюцца, час іх замяніць.

### Стаўце энергашкло

Як рэкамендуе спецыяліст па маркетынгу кампаніі "Окноград" **Руслан Пудакевіч**, падчас выбару найперш звяртайце ўвагу на вытворцу, фурнітуру, профіль і выгляд шклопакета.

Найбольш вядомыя профілі буйных кампаній "Rehau", "АРтек" і "КБЕ".

– Профіль – аснова будучага акна, ад яго залежыць трываласць і даўгавечнасць канструкцыі, – расказвае спецыяліст. – Яны могуць быць трохальбо пяцікамернымі. Гэта паветраныя падушкі, якія размяшчаюцца па перыметры рамы і забяспечваюць гука- і цеплаізаляцыю. Чым іх больш, тым акно цяплейшае.

Спецыяліст раіць ставіць вокны з энергазберагальнымі шклопакетамі. Энергашкло мае спецыяльнае пакрыццё з аксіду срэбра. Яно адбівае цепльню з памяшкання. Тэрмін службы яго неабмежаваны. Каштуюць такія вокны ненашмат даражэй, але ад іх цяплей у два разы.

Адразу з вокнамі можна паставіць і ўцепленыя пластыкавыя адкосы.

**Вокны ПВХ можна ўстанаўліваць, калі на дварэ да –10 градусаў.**

Руслан Пудакевіч не раіць устаўляць акно ПВХ у старую раму.

– Звычайна такі варыянт устаноўкі выбіраюць людзі, якія жывуць у прыватных дамах альбо ў вясковых. Вядома, за акно вы заплаціце менш, аднак цяплей ад гэтага ў доме не стане. Старая рама струхнела, пакля альбо мох праселі. Таму лепш выняць старую раму, уцяпліць акно пасучаснаму – пенай.

Спецыяліст раіць не эканоміць на фурнітуры. Больш дарагая адрозніваецца большым тэрмінам службы, большай зручнасцю, мякчэй адкрываецца.

Для большага тэрміну службы фурнітуры і гумы трэба карыстацца спецыяльнымі сродкамі. Лепш рабіць гэта два разы на год – перад зімой і пасля яе.

### Для падлогі часцей бяруць ламінат

Ён складае больш за 50% продажу.

– Ламінат – гэта зборна-разборная канструкцыя, – адзначае дырэктар кампаніі "Солас-плюс" **Станіслаў Салаўёў**. – Пры неабходнасці, напрыклад, калі вам трэба пераехаць у новую кватэру, можаце яго разабраць і сабраць занава.

Падчас выбару ламінату трэба звярнуць увагу на некалькі параметраў:

1. Клас зносаўстойлівасці. Самы нізкі – 31 клас.

Для жылля падыдзе ламінат любога класа, але чым вышэйшы, тым большы тэрмін службы. Для самага нізкага класа ён пяць-сем гадоў. Самы вялікі тэрмін службы – 40 гадоў.

2. Таўшчыня. Самы тонкі ламінат – шэсць міліметраў, яго трэба класці на вельмі роўную паверхню. Найбольшым попытам карыстаецца ламінат васьмі міліметраў. Чым ён таўсцейшы, тым большую нагрузку можа вытрымаць.

3. Устойлівасць да вільгаці.

– Ёсць дзве ступені ўстойлівасці ламінату да вільгаці, – адзначае Станіслаў Салаўёў. – Першая, калі падчас вытворчасці матэрыял насычаюць пэўным саставам. Другая, калі замкі дадаткова насычаюць сіліконам. У апошнім выпадку ламінат больш устойлівы да вільгаці.

Цяпер ламінат можна знайсці з фасачкай – гэта паглыбленне, якое дадае натуральнасць і засцеражэ ад разбурэння.

**– Як правільна класці ламінат?**

– Паверхня для яго павінна быць роўная. Галоўнае, каб не было ямкі. Перавага гэтага матэрыялу ў тым, што яго можна пакласці фактычна без астатkaў. А калі ў вас і засталося некалькі дошчачак, то ў нашым магазіне іх возьмуць назад, а вам вернуць грошы.

З часам там, дзе ламінат сцёрся, яго можна замяніць новым, дадаўшы некалькі дошчачак.

**– Які ламінат лепш выбіраць – беларускі альбо імпартны?**

– Варта выбіраць не па краіне-вытворцы, а па класе ламінату. Смела можна давяраць і расійскаму, і беларускаму, які вырабляюць у Смаргоні.

Экалагічнасць ламінату можна паглядзець на ўпакоўцы. А+ – гэта значыць, што ламінат адпавядае самым высокім патрабаванням. Смаргонскі ламінат мае гэту пазнаку.

### Якасны лінолеум праслужыць да 15 гадоў

Па-ранейшаму актуальным матэрыялам для падлогі з'яўляецца лінолеум. Пры выбары найперш звярніце ўвагу на яго таўшчыню і таўшчыню ахоўнага слоя. Ён уплывае на тэрмін прыдатнасці.

### Памяшканне будзе прасторным з вялікай пліткай

– Цяпер з'явіўся разнастайны выбар керамічнай пліткі па колеры, памеры, тэкстуры. Аднак большасці пакупнікоў цяжка адысці ад класічных мадэляў, – расказвае галоўны бухгалтар гандлёвага дома "Бярозакераміка-Вілія" **Ілона Гуд**. – Праўда, гэтыя мадэлі больш танныя.

Маладыя пары стараюцца камбінаваць класіку і сучаснасць, часам выбіраюць яркія дэкоры альбо яркія дэталі ў дызайне. Па колеры найбольшым попытам карыстаюцца мадэлі цёплых тонаў, асабліва бэжавыя. Не губляе актуальнасці і афармленне ванны ў чорна-белым варыянце.

– Пад плітку можна падабраць адпаведныя па колеры вітражы. Яны незаменныя, калі чалавек хоча прыцягнуць увагу да пэўнай часткі сцяны, – раіць спецыяліст.

Усё большую папулярнасць заваёўвае плітка вялікага памеру, напрыклад, 20×50, 30×60. З ёй памяшканне візуальна становіцца большым.

Спецыяліст раіць звярнуць увагу на тэкстурную плітку. Многія баяцца, што яна дрэнна мыецца, але гэта не так. Тым больш, што такая плітка зрокава павялічвае пакой.

– Для падлогі вытворца пачаў рабіць новую па тэкстуры плітку – шурпатую, з матавай паверхняй, – адзначае Ілона Гуд. – Па якасці яна ідзе як мармурова-гранітная, якую выкарыстоўваюць для вуліцы, таму вельмі ўстойлівая і не слізкая.

**У невялікіх памяшканнях кладзіце плітку гарызантальна – гэта пашырае прастору, вертыкальная кладка – зрокава аддаляе столь.**

– Калі выбіраеце сантэхніку, звярніце ўвагу на змяшальнікі кітайскай фірмы "FRAP", дзе вытворчасць па нямецкіх тэхналогіях. Усё надзейнае, вытворца распрацаваў розныя варыянты дызайну, разнастайныя пераключальнікі, – дзеліцца досведам спецыяліст. – Раней мы закуплялі змяшальнікі германскай вытворчасці, але яны падыходзяць, калі вада фільтраваная. Змяшальнікі літоўскай кампаніі "Рубінета", якасныя, аднак цана пужае пакупнікоў.

## "Людзям цяжка адысці ад чайнікаў на шпалерах"

Як адзначае дырэктар магазіна "Мол" **Дзмітры Косцешаў**, большасці пакупнікоў цяжка адысці ад стэрэатыпаў у выбары шпалераў. Многія прызвычаіліся да шаўкаграфіі, якая адыходзіць у мінулае, да таго, што для кухні падыходзяць шпалеры з чайнікамі, рамонкамі, квадрацікамі.

– Жыццё трансфармуе выгляд нашага жылля, – расказвае Дзмітры. – Цяпер ужо няма ўстойлівых нормаў, напрыклад, што есці трэба толькі на кухні. Людзі могуць гэта рабіць у любым з пакояў. Кухня пачынае паступова трансфармавацца ў кухню-гасціную. Сюды пераехаў тэлевізар. Многія замест пліткі на падлогу кладуць ламінат, гэта робіць пакой больш утульным. Варта мяняць свае погляды і на выбар шпалераў.

Добрым рашэннем могуць стаць вінілавыя шпалеры гарачага ціснення. Яны не баяцца драпін, вільгаці, дыхаюць. Іх яшчэ называюць антывандальнымі.

Каб паклеіць шпалеры на столі, спачатку варта прыклеіць металічныя элементы скотчам. Тады не будзе выступаць іржа, і колер шпалераў даўжэй застанецца як новы.

Папулярнасць набываюць фоташпалеры. Каб яны выйгрышна глядзеліся ў пакоі, спецыялісты падбіраюць пад іх шпалеры.

– Жыхарам рэгіёна даспадобы выявы вялікіх гарадоў, прырода іншых краін, – дзеліцца досведам Дзмітры Косцешаў.

У асартыменце магазін мае шпалеры замежных вытворцаў, шмат экзатычных мадэляў.

## Лепшыя газавыя пліты – беларускія

Адно з найбольш хвалюючых пытанняў падчас рамонту – установка газавай пліты, а ў прыватным доме – ацяпленне.

– Цяпер людзі ўстанаўліваюць навясныя газавыя катлы, – расказвае начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела "Маладзечнагазу" **Яўген Пацееў**. – І яны маюць рацыю. Па-першае, гэтыя катлы маюць высокі КПД. Па-другое, у такіх катлоў многа аўтаматыкі, што робіць выкарыстанне бяспечным. Напрыклад, сістэма сочыць, каб на дом не пайшоў чад, калі кнот патух – сістэма адключаецца аўтаматычна.

Пры выбары газавай пліты звярніце ўвагу на беларускага вытворцу, у прыватнасці, "Gefest". Надзейныя пліты, ад якіх менш адмаўляюцца пакупнікі. За плітой павінна быць незагаральная паверхня, напрыклад, плітка, тынкоўка.

**Чытайце працяг у наступных нумарах і дасылайце пытанні па рамонце на пошту regionnews@rh.by ці на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92





Ілюстрацыя devchurka.ru.

НАВІНЫ

## "Смаргонь" зноў гуляе ўнічыю 1:1

СМАРГОНЬ

У Смаргоні 13 верасня мясцовы клуб згуляў унічыю з "Хімікам" са Светлагорска 1:1.

Смаргонцы стварылі шмат галявых момантаў, але забілі аднойчы. У канцы першага тайма пасля прыгожай камбінацыі пранікальным пасам на ўдарную пазіцыю вывелі **Ігара Крывабока** і той перайграў варатара. "Хімік" адыграўся на 65-й хвіліне.

"Смаргонь" апусцілася на шостае месца ў турнірнай табліцы.

## Смаргонская "Вілія" лідзіруе

СМАРГОНЬ

"Вілія" са Смаргоні заняла першае месца ў групе "Поўнач" чэмпіянату Гродзенскай вобласці па футболе. Смаргонцы выйшлі ў фінальны этап, дзе гуляюць шэсць лепшых камандаў.

Дома 13 верасня "Вілія" абыграла "ФСК Гродзенскі" 1:0.

– Гульня была роўная, проста нашай камандзе больш пашчасціла, – расказаў гулец "Віліі" **Віталь Будай**.

"Вілія" ідзе на першым месцы ў фінальным этапе.

## "Ашмяны" выйшлі ў фінальную частку

АШМЯНЫ

У чэмпіянаце другой лігі футбольны клуб "Ашмяны" дома 12 верасня выйграў у "Спартака-Шклоў" 2:1. І за тур да заканчэння спаборніцтваў у групе "А" "Ашмяны" ўслед за камандай "Маладзечна-ДЮСШ-4" забяспечылі сабе месца ў фінальнай частцы.

## Міні-футбол у "Надзеі"

ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ

Ад 10 да 13 верасня ў дзіцячым цэнтры "Надзея" на Вілейшчыне прайшоў турнір па мініфутболе. Удзельнічалі дзеці, якія пацярпелі з прычыны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і праходзяць аздараўленне ў дзіцячых цэнтрах. Прайшоў турнір у межах адзінага тыдня масавага футбола УЕФА.

Удзельнічалі дзевяць камандаў.

Перамагла каманда цэнтра "Сідзельнікі" з Гомельшчыны. На другім месцы – юныя футбалісты з цэнтра "Лясная паляна" са Смаргонскага раёна.

Каманда цэнтра "Надзея" была чацвертай.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Таццяны КАПТОНАВАЙ.

# "Шматлюдна і шматдзетна"

## Фестываль "Тралей-2015" адбыўся на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Прайшоў ён 5 і 6 верасня ля вёскі Асінаўка Вілейскага раёна. Гэта быў ужо сёмы падобны фестываль, а ля рэчкі Нарачанка адбываўся ён чацверты год.**

– Было шматлюдна і шматдзетна. Сабралася каля 400 чалавек, з іх амаль 90 дзяцей. Апошні гады фестываль становіцца сямейным, – кажа арганізатар фестывалю **Дзмітры Радаман**. – Лічу, людзей сюды прыцягвае менавіта атмасфера фестывалю – дружалюбная і душэўная.

Сёлета прыехалі ўдзельнікі з Беларусі, Літвы, Расіі, Украіны, Германіі і іншых краін.

Сярод шматлікіх забаў быў тралей: ахвотныя спускаліся на хуткасці ўздоўж Нарачанкі па доўгай вяроўцы з дапамогай адмысловага рыштунку. А яшчэ – роўпджампінг: экстрэмалы скакалі з пляцоўкі на дрэве вышынёй з дзявяціпавярхоўку. Былі слэйклайн, спаборніцтвы па лясным валейболе і хуткасным бадмінтоне ды іншыя.

Праводзілі майстаркласы па танцах, капаэйры. Зладзілі канцэрт. Для дзяцей працавала адмысловая пляцоўка. Удзельнічалі яны ў гонках на шагавелах (ровары без педаляў). А сабак вучылі гуляць у фрысбі.

Як заўжды, фестываль меў дабрачынны характар. Выручаныя сродкі і рэчы, якія прывезлі ўдзельнікі, перададуць у Пухавіцкі дзіцячы прытулак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** **Роўпджампінг** – скачок з вяроўкай з высокага аб'екта пры дапамозе складанай сістэмы амартызацыі з альпінісцкіх вяровак і рыштунку. Слэйклайн – праход па нацягнутым стропе.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Футбол. Маладзечна – Мар'іна Горка. Лік 3:1

МАЛАДЗЕЧНА

**У передапошнім матчы групавога этапу чэмпіянату краіны па футболе ў другой лізе каманда "Маладзечна ДЮСШ-4" перамагла гасцей – каманду з Мар'інай Горкі з пераможнай назвай "Вікторыя".**

Было б няпраўдай сказаць, што перамога дасталася маладзечанцам лёгка.

Да 40-й хвіліны першага тайма каманды сапернічалі ў тым, хто завалодае ініцыятывай. Абедзве стваралі небяспечныя моманты, але толькі за пяць хвілін да свістка суддзі мяч у выкананні **Паўла Майсяёнка** трапіў у вароты мар'інагорскага варатара.

Літаральна ў першай дзесяціхвілінцы другога тайма "Вікторы" пашчасціла адквітаць мяч.

Але гэта не перашкодзіла леваму абаронцу каманды "Маладзечна" **Паўлу Суману** забіць неверагодны гол з далёкага ўдару.

Сам Павел накont свайго гола адказаў:

– Усё проста. У кожнага ёсць пачуццё гола, кожны з футбалістаў пра гэта ведае, і шанец забіць гол ёсць практычна ў кожнага футбаліста.

Адчуўшы небяспеку, госці пачынаюць актыўнічаць на полі.

Але фінальную кропку за пяць хвілін да фінальнага свістка ў матчы ставіць **Юры Малько**.

"Маладзечна ДЮСШ-4" 19 верасня згуляе апошні матч групавой стадыі супраць каманды "Тарпеда" з Магілёва.

Далей – фінальны тур, у якім маладзечанцы дакладна згуляюць. Разам з імі за выхад у першую лігу пазмагаюцца каманды з Ашмянаў, Узды, мінская каманда "Прамень".

На выхад у фінальны этап прэтэндуюць каманды "Вікторыя" з Мар'інай Горкі, Клецка, мінскае і магілёўскае "Тарпеда" і яшчэ шэраг камандаў. Але канчатковы склад фіналістаў стане вядомы ў суботу, 19 верасня.

Трэнер каманды **Віталь Казяк** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што гульня супраць "Вікторыі" для Маладзечна была прынцыповай. Разыгрываліся вельмі важныя для каманды ачкі.

Папярэдні матч супраць гэтай каманды маладзечанцы згулялі з нічыйным лікам 2:2.

– Гульня была зусім няпростай. Магчыма, нам дапамагло тое, што ў канцы першага тайма ў камандзе-саперніцы адбылося выдаленне. Магчыма, своечасовыя замены паспрыялі таксама. Напрыклад, апошні, трэці, мяч забіў Юры Малько, які выйшаў на замену.

Пра гол абаронцы Паўла Сумана Віталь Казяк адказаў:

– Павел такі абаронца, што заўсёды далучаецца да атакі, калі гэта магчыма. Так адбылося і ў суботнім матчы. Першы раз ён пристрэльваўся, а момант, калі забіў гол, відаць, не змаглі адсачыць сапернікі. Паша забіў вельмі важны гол.



**"Мы зацікаўленыя ў тым, каб магіляўчане не трапілі ў фінальную "пульку".**

Віталь Казяк пра гульню з камандай з Магілёва.

Наогул, каманда ўся адпрацавала выдатна. Вядома, былі моманты, якія таксама трэба было рэалізаваць. Толькі зрабіць гэта было немагчыма, але імкнуцца трэба.

Што датычыцца гульні, якую давядзецца згуляць у суботу з "Тарпеда" з Магілёва, Віталь Казяк адказаў:

– Ніякіх расслабляльных фактараў у гэтай гульні быць не можа. Мы накіраваныя толькі на перамогу. Першы матч супраць гэтай каманды скончыўся для нас паражэннем. Другі раз такога быць не павінна. Мы зацікаўленыя ў тым, каб магіляўчане не трапілі ў фінальную "пульку". Для нас выгадна, каб туды трапіла каманда з Асіповічаў, у якой мы забралі шэсць ачкоў, каманда "Вікторыя", у якой мы адабралі чатыры ачкі, ну, і Ашмяны, з якімі мы двойчы згулялі ўнічыю.

**Наталля ТУР.**

● АДПАЧЫНАК

# У "Растку" працуе паляна для пікнікоў з мангалам

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Апошнія тыдні маладзечанцы і госці горада могуць скарыстацца навінкай сезона.**

Пра паляну распавяла загадчыца аддзела масавых мерапрыемстваў **Наталля Івашанка**.

Дзіцячы цэнтр культуры "Расток" запрашае ўсіх ахвотных на "Пікніковую паляну". Гасцям прапануюць камфортны адпачынак на свежым паветры: мангалы, арэлі, сталы, гамакі, шэзлонгі. Можна таксама пагуляць у бадмінтон, валейбол, баскетбол.

У рабочыя дні ад 12 да 14 гадзін бавіць час на паляне можна бясплатна. У выхадныя яна працуе ад 9 да 18, для дзяцей да трох год уваход бясплатны.

Дзіцячы цэнтр "Расток" месціцца ў Маладзечне па вуліцы Канстанцы Буйло, 1.

Тэлефон для даведак: (80176) **76-42-46**.

**Дар'я БАБЕНКА.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталлі ТУР.

**Кіраўнік клуба "Воіны ВКЛ" Аляксандр Шоць (справа) разам са сваімі сябрамі па клубе ў суботу, 12 верасня, зладзілі сапраўднае свята для дзяцей і іх бацькоў. Дарослыя маглі паўдзельнічаць у сапраўдных рыцарскіх баях. Жанчыны і дзяўчаты – патанцаваць сярэднявечныя танцы, а самыя маленькія – прымерацць кальчугу і патрымаць зброю.**



● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 3 | | 8 | | | |
| 8 | 1 | | 6 | | | 4 | | |
| | 9 | 5 | | | | | | |
| 6 | | 1 | 9 | | | | | |
| | 4 | 3 | | | | 2 | 1 | |
| | | | | | 4 | 7 | | 3 |
| | | | | | | 8 | 4 | |
| | | 4 | | | 9 | | 5 | 1 |
| | | | 2 | | 1 | | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі **"Незвычайнае падарожжа Серафімы"** (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
18 верасня – у 15:50
19 верасня – у 13:50
20 верасня – у 12:00
21, 23 верасня – у 17:20
22 верасня – у 16:50
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **"Кунг фу Трусік: Валадар агню"** (Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
18 верасня – у 17:30
19 верасня – у 15:30
20 верасня – у 17:10
Цана білета: 30 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал **"Хітмэн: Агент 47"** (Германія, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, фантастыка **"Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём"** (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
18 верасня – у 19:30
18, 19 верасня – у 22:00
19 верасня – у 17:30
20 верасня – у 14:40
20 верасня – у 19:10
21, 23 верасня – у 21:00
22 верасня – у 18:30
Цана білета: 55 000-60 000 рублёў

Жахі **"Пікавая дама: Чорны абрад"** (Расія, 2015, пасля 16 год)
19 верасня – у 20:00
20 верасня – у 21:40
22 верасня – у 21:00
23 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Чароўная краіна"** (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
19 верасня – у 15:00
20 верасня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды, сямейны **"Суперкаманда"** (Аргенціна, Іспанія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
19 верасня – у 17:00
20 верасня – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі, меладрама, прыгоды **"Па-за часам"** (Аўстралія, 2014, пасля 16 год)
18 верасня – у 17:00
18, 20 верасня – у 21:00
19 верасня – у 19:00
21 верасня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Небяспечнае пагружэнне"** (Вялікабрытанія, 2015, пасля 16 год)
18 верасня – у 19:00
19 верасня – у 21:30
20 верасня – у 18:30
21 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер, прыгоды **"Чорнае мора"** (ЗША, Расія, 2014, пасля 16 год)
22 верасня – у 21:30
23 верасня – у 19:30
24 верасня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама **"Яшчэ адзін год"** (Расія, 2013, пасля 16 год)
22 верасня – у 19:30
23 верасня – у 21:30
24 верасня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер **"Перавага"** (Вялікабрытанія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18, 19 верасня – у 17:30
20 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік, драма **"Пампеі"** (Канада, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 верасня – у 20:00
19 верасня – у 19:30
20 верасня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Прыгоды мышаняці"** (Перу, без узроставых абмежаванняў)
19 верасня – у 13:00
20 верасня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя **"Кінадзяцінства. Цішэй, бабуля спіць"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
19 верасня – у 14:30
20 верасня – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя **"Незвычайнае падарожжа Серафімы"** (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
18 верасня – у 16:30
19 верасня – у 15:30
20 верасня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Фантастыка, баявік **"Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём"** (3D, ЗША, пасля 16 год)
18 верасня – у 18:00
19 верасня – у 21:00
20 верасня – у 17:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Жахі **"Пікавая дама: Чорны абрад"** (2D, Расія, 2015, пасля 16 год)
18 верасня – у 20:30
20 верасня – у 20:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **"Кунг-фу Трус: Уладар агню"** (3D, Кітай, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
19 верасня – у 13:30
20 верасня – у 15:30
Цана білета 30 000 рублёў

Камедыя **"Хлопец з нашых могілак"** (2D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 верасня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, баявік, фантастыка **"Фантастычная чацвёрка"** (2D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
19 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

● ГАРАСКОП 18-24 ВЕРАСНЯ



**Авен.** Мы забываем пра тое, што свет унутры нас такі ж вялікі і разнастайны, як і вакол. Каб займець гармонію і спакой, вам трэба паглыбіцца ў сябе, зразумець, перш за ўсё, свае ўласныя мэты і жаданні.



**Цялец.** Вашы эмацыйныя парывы часам зусім не да месца, пад уплывам пачуццяў і эмоцый вы можаце штосьці ўтварыць. Ды і кантраляваць сябе не ўмееце. Таму спачатку вы ўсё разбурыце, а пасля будзеце ўзнаўляць з нуля. Хаця тут ёсць і добры момант: можна пазбавіцца ад старога і набыць лепшае новае.



**Блізняты.** Праверце надзейнасць новых партнёраў і калег, не варта сляпа давяраць ім, асабліва ў грашовых пытаннях.



**Рак.** Вам прыйдзецца шмат працаваць, таму не распыляйцеся на дробязі, вазьміцеся за адну справу і зрабіце яе якасна. Удачы могуць прынесці новыя ідэі, не саромейцеся іх падзяліцца з начальствам.



**Леў.** Вы моцна пагружаны ў пытанні матэрыяльнага характару. Вам трэба перагледзець свае погляды, бо грошы прыходзяць і сыходзяць, любыя матэрыяльныя каштоўнасці часовыя і не дазваляюць вам духоўна развівацца.



**Дзева.** Вы рызыкуеце стаць заложнікам зямных даброт, трапіць у залежнасць ад іх і ў цяжкі момант не знайсці выйсце з неспрыяльнай сітуацыі. Толькі погляд з розных бакоў і пад рознымі вугламі на звыклыя для вас рэчы можа паказаць іх такімі, якімі яны ёсць на самой справе.



**Шалі.** Няхай цяпер вашымі спадарожнікамі стануць здаровы розум і памяркоўнасць.



**Скарпіён.** Сачыце за тым, што вы гаворыце, бо можаце сказаць шмат лішняга. Час ад часу заставайцеся сам-насам, каб прывесці свае думкі і пачуцці ў парадак.



**Стралец.** Нязначныя спрэчкі з блізкімі людзьмі вы з лёгкасцю пераадолееце, калі будзеце гатовыя саступіць хоць трохі.



**Казярог.** Калі ўзнікне канфлікт на рабоце, пастарайцеся змякчыць яго, не давайце яму разрасціся.



**Вадалей.** Усе гэтыя дні вы будзеце атрымліваць асалоду з раніцы да вечара, смакуючы кожнае імгненне. Асабліва цудоўнымі будуць выхадныя, праведзеныя не ў адзіноце.



**Рыбы.** Не бойцеся быць шчаслівымі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27



## ● НАДВОР'Е

**19 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +19 / +25 | | +14 / +19 | | +14 / +17 | | +14 / +21 | |
| | 739 | ← 8 | 744 | ↓ 3 | 743 | ↓ 5 | 738 | ↘ 2 |
| Вільня | +17 / +20 | | +13 / +17 | | +9 / +16 | | +11 / +13 | |
| | 747 | ← 6 | 751 | ↙ 4 | 750 | ↘ 5 | 747 | ↓ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |



Усход 6.38
Захад 19.37
Даўжыня дня 12.59

Усход 5.37
Захад 19.07
Квадра 4




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -1,1 °С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +23,7 °С у 1983 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,2 мм у 1978 годзе
Назіранні за 38 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Маладзечанка ў Аўстраліі.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што хацелі б вы, каб пабудавалі на месцы стаянкі на Цэнтральнай плошчы?



**Аляксандр Бухціяраў, выкладчык у дзіцячай музычнай школе:**
– Я жыву ў доме, што якраз стаіць ля гэтай стаянкі, і нам з ёй праблем хапае. Усю ноч не дае спаць сігналізацыя, а потым людзі пачынаюць праграваць, заводзіць машыны з шасці раніцы. Шчыра кажучы, я не хачу, каб там нешта будавалі, хіба што прысады ці сквер пасадзілі.



**Таццяна Качарга, выхавальніца:**
– Я вельмі хацела б, каб на гэтым месцы быў тэатр. Гэта цэнтр горада, месца непадалёку ад парку і плошчы, ходзіць шмат людзей. А то наш тэатр зусім непрыкметны, стаіць каля стадыёна. А калі яшчэ ўзвесці прыгожы будынак, то і цікавасці да тэатра было б больш.



**Міхаіл Прохараў, пенсіянер:**
– Няхай пабудуюць які-небудзь гандлёвы цэнтр ці краму, а стаянка, ці пакінуць яна тут? Тут і так цэнтр горада, загазаванасць вялікая, духата, яшчэ і машыны будуць стаяць.



**Наталля Рыкава, музычны кіраўнік:**
– У нас не хапае месцаў, дзе можна пасядзець з дзецьмі і пагуляць, ці пакінуць іх, пакуль ідзеш на рынак. У Польшчы, напрыклад, амаль паўсюдна ёсць забаўляльныя цэнтры. Таму ці такі цэнтр, ці сквер, дзе можна адпачыць.



**Андрэй Кісель, будаўнік:**
– Я жыву за горадам, таму стаянка мяне цалкам задавальняе. Я ёй пастаянна карыстаюся, калі прыязджаю. Мне ўсё роўна, прыбяруць яе ці не, але цяпер яна мне вельмі дапамагае. Прыехаў на рынак – і ёсць, куды машыну паставіць.



**Вольга Кашэўская, індывідуальная прадпрымальніца:**
– Мне вельмі хацелася б, каб на месцы гэтай аўтастаянкі быў ЗАГС. Тады б цырымоніі праходзілі прыгожа, урачыста і ў цэнтры горада, побач з плошчай. Ці перанеслі яго ў Палац культуры, гэта таксама непадалёку.

Падрыхтавала Дар'я БАБЕНКА.

Што плануюць збудаваць на месцы стаянкі на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне, чытайце на 2-й старонцы "РГ".



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№38 (1064) 18.09.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1204. Падпісана ў друк у 9.00 17.09.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.